ЛІТАРАТУРНЫ ВЫПУСК
ГАЗЕТЫ «ГРОДЗЕНСКІ УНІВЕРСІТЭТ»
ГрДзУ імя Я. КУПАЛЫ



# КОЛА

№ 15 (170) 21 мая 1991 года

## *ЮРУ КАРЭЙВУ — 30 ГОД*

**Калектыў «Кола» і літаб'яднанне «Надняманскія галасы» віншуюць свайго сябра і зычаць яму поспехаў у творчасці і грамадскім жыцці.**



**АТ, ШТО ТАМ!..**

Ат, што там!,— на ўсё
махнуўшы рукою,
Жыць можна бяз болю,
жыць можна ў спакою.
Жыць можна, хай нават
паветра ні жмені,
Хай холад, хай голад, хай—
хвіга ў кішэні!
Абы была ціхаю ў сьцены
дарога,
Абы за парогам—
нікога-нікога.
Прыцёгшыся з працы, ты
мусіш схавацца,
Зьнябыцца, забыцца,
сам-насам застацца,
Хто грукацца будзе—
заенчыш: «Ну хто там!»—
Ня пусьціш, хай нават канае
пад плотам...
Дзе ўцяміць няможна,
што стаццайме з кожным,
Хай ж ведае кожны, што
ты асьцярожны.
Што ў гэтай пякельні,
у гэтай вар'ятні
Ты сымбаль спакою, ты—
прыклад астатнім!
1990 г.

**ЖЫЦЬЦЯСКОН**

Кавалі штучных сонцаў
і зорак
Накавалі нам чорнай бяды—
І сплываюць па кроплі
з разораў
Лёся нашыя ў дол, на клады.
Між разораў тых—
жыцьцяў дажынкі:
Жнуць — ды д'яблам
здаюць на замес.—
Як ніводнае Божай
збажынкі
Не пакінеш, што ж будзе
замест!
А замест нам — нічога
ня будзе,
Анічога душою ажыць,
Бо зямля не даруе тым
людзям,
Што ня ўмеюць сьвятым
даражыць.
Гляньце ж, вы!,— ад
народзін да крыжа
Шлях ваш — церні ды
ў цемры зьнічы...—
Дык ці ж хочаце, хто
яшчэ выжыў,
Заставацца навечна
зь нічым!.
1987 г.



А. ПЯТКЕВІЧ

# СЛОЎНАЯ ЭКВІЛІБРЫСТЫКА



У першым нумары «Кола» быў змешчаны артыкул З. Санюка «Шляхі да Боскага», дзе ён разглядае творчасьць некаторых паэтаў Гарадзеншчыны. Натуральна, згодна дэмакратычнаму накірунку ў нашым грамадстве, кожны чалавек можа даводзіць да людзей свой пункт гледжаньня на тую ці іншую рэч альбо падзею. Дык і я выкажу колькі ўласных меркаваньняў пра артыкул З. Санюка.

Агульнае ўражаньне — аўтар падганяе свае разважаньні пад агульны, загадзя акрэсьлены знамянальнік — набліжэньне паэтаў да Бога. І праз прызму набліжэньня ён разглядае іх творчасьць. Цяпер стала вельмі модным махаць перад чытачамі словамі «Бог», «вера». Але, як сказаў пясьняр партыйнага таталітарызму У. Маякоўскі: «слова ветшают, как платья». Слова «вера» якраз і ёсьць такое — зношанае, струхлелае, пакамечанае. Яго далучаюць ледзь не да кожнага выказваньня: «вера ў камунізм», «вера ў Бога», «вера ў свае сілы» і г. д. З артыкула З. Санюка па лёгіцы вынікае, што крытэрыем творчасьці паэтаў з'яўляецца іх вера ў Бога. Абсурд! Паэты — атэісты, прэч з карабля паэзіі! Вось да чаго можна дайсьці, калі стрыгчы ўсіх пад адзін грэбень, так як гэта робіць аўтар «Шляхоў да Боскага».

«Паэту хочацца новых альтэрнатыў духоўнасьці, але ж вышэй ужо нічога няма» — піша Санюк. Мне так і ўяўляецца, што ён узяў лесьвіцу, злазіў на неба, упэўніўся, што вышэй ужо нічога няма, і цяпер павучае Пацюпу: маўляў, я ведаю, ня лезь вышэй. З. Санюк піша: «Пацюпа праз адмаўленьне неабходна прыйдзе к сцьвярджэньню абсалютных ісцін». А што, калі ня прыйдзе! Нават вялікія пракрокі чалавецтва — Іван Багаслоў і Настрадамус — не прадказвалі так канкрэтна і з такой упэўненасьцю. А мо Санюк яшчэ большы прарок — хто ведае!

Пра маю творчасьць З. Санюк піша: «Свой таемны шлях адчыняе нам Андрэй Пяткевіч». Найперш зазначу, што адчыняюць вокны ці дзьверы, а шлях адкрываюць — гэта элементарнае правіла культуры мовы. А яшчэ — я ня згодзен з большасьцю таго, што сказаў З. Санюк пра мяне й маю творчасьць. Ніякую «філасофію цемры» я нікому не нясу. Крытык вырывае з кантэксту адзін-два радкі і адвольна тлумачыць іх. Верш — адзінае цэлае, і так рабіць нельга. Так рабілі і робяць партыйныя ідэолёгі ў час змаганьня супраць антыкамуністычных «ерасяў»: вырываюць цытату з кантэксту, адвольна тлумачаць і вешаюць ярлыкі. «Філасофія цемры» — адзін з прыкладаў слоўнай эквілібрыстыкі. Слоўная эквілібрыстыка — гэта жангліраваньне паняцьцямі, якія, будучы адарванымі ад сваіх лексічных сістэмаў, страчваюць набыты ў гэтых сістэмах сэнс. Паняцьце «філёзофія» азначае пэўную сістэму найбольш агульных уяўленьняў пра сьвет, чалавека і грамадства. Слова «цемра» ў агульным азначае адсутнасьць сьвятла — бачных чалавечым вокам выпраменьваньняў. І вось гэтыя словы, вырваныя са свайго лексічнага акружэньня і злучаныя між сабой, становяцца бяссэнсоўнымі. А такой слоўнай эквілібрыстыкі ў артыкуле «Шляхі да Боскага» хапае.

Не сумняюцца толькі фанатыкі. А я сумняюся шмат у чым. І тым больш мой лірычны герой сумняваецца ў вечнасьці ды ісьцінасьці вышэйшых законаў. Бо калі вышэйшыя законы з усёй іхняй ісьцінасьцю ды вечнасьцю не супыняюць дзеяньня некаторых злачынных чалавека-грамадскіх законаў ды існасьці зла наогул, то навошта яны мне. Я ніколі ня прыйду да біблейскага Сатаны, які для пацьверджаньня веры ў яго заклікае Аўраама забіць свайго сына. Ня прыйму ў сваю душу й Хрыста, лёзунгам якога «Хто не са Мной, той супраць Мяне» (Матф, 12; 30) карыстаюцца сілы зла, Сатаны.

З. Санюк піша, што мая птушка паэзіі «чакае свайго палёту». Не, мая птушка паэзіі нікога не чакае, яна даўно, гадоў дзесяць назад, паляцела і цяпер якраз знаходзіцца ў паэтычным зеніце. Паэт становіцца паэтам і ёсьць ім нават тады, калі не жадае друкаваць свае творы на нявольніцкіх умовах. Час ужо зразумець гэта крытыкам.

## А. БРУСЕВІЧ

### У САВЕЦКІМ АЎТОБУСЕ

У аўтобусе людзей цьма.
Нідзе мейсца вольнага няма.
Усюды морды п'яныя стаяць,
Хочацца ад іх ванітаваць.
Хтосьці локцем дасць, або нагой
І яшчэ дабавіць: «Смірна стой».
Былі б грошы — ездзіў на таксі,
Калі б што, сказаў: «пардон», «мерсі».
А цяпер я езджу як вар'ят,
А наўкол — адзін пралетар'ят.

### БЛІЖЭЙ ДА ЛЕТА

Жыццё глынае кавалкі года,
І хіліць сонца бліжэй да лета.
Стаіць цудоўная пагода.
Плывуць аблокі ў нябёсах светлых.
А над ракою, над сінім плёсам
Сярод травы і жоўтых кветак
Галіны ўскінула бяроза.
Лісточак кожны чакае лета.
Частуюць дрэвы паветрам чыстым.
І каб хутчэй ляцела лета
Я крыкну далям серабрыстым,
А словы рэха падзеліць з ветрам.

## Е. МАЗЬКО

### ЁН ПРЫЙШОЎ

Ён прыйшоў, гэты дзень. Ён ня мог не прыйсьці. Яго ніхто не чакаў. Усе жылі штодзённымі клопатамі. Адныя зьбіралі грошы, другія трацілі іх на мэблю, вопратку і забаўкі, а трэція — выступалі на мітынгах. Карацей, былі штодзённыя клопаты.

І вось ён прыйшоў. Ён не мог не прыйсьці. Нават калі нас ня стане, ён усё роўна будзе прыходзіць. Бо кожнае здарэньне мае кропку вечнага пачатку.

Дык вось, ён прыйшоў. Не, ня было землятрусаў і павадкаў, ні халеры і ні СНІДу. Проста, у блакіце неба купалася сонца. Так як і ўчора, так як і заўтра.

І ніхто ня ведаў, што ён прыйшоў. Куляліся зь бярозы на вярбу рабухі, бабулі, ля засьмечанага пад'езду, перабіралі ружанец і дзяліліся апошнімі плёткамі.

Не, каляндар ведаў. Нездарма ж ён, так хітра ўглядаўся ў мае вочы.

Ну вось і ўсё. Галоўнае, што ён прыйшоў — Дзень маіх народзінаў.

Вяртаюцца птушкі з выраю
чорныя, нібы смоль
толькі ня ім
маё зерне

вяртаюцца птушкі з поўначы
белыя, нібы надзея
толькі ня ім
маё зерне

вяртаюцца птушкі з восені
чырвоныя, нібы апошні дзень
гэта для іх
маё зерне

### БЕЗНАДЗЕЙНАСЬЦЬ

бывае надыходзіць час
савінага галашэньня
калі не чутно званоў
і сьвет робіцца дробным
як раструшчанае шкло
а душа мая
ператвараецца
у згустак попелу
час савінага галашэньня
ніхто ня вып'е зараз
толькі па кроплі
кап... кап... кап...
час савінага галашэньня
я стаміўся слухаць
твой вечны лямант.

### ТУГА ПА АГНІ

П. Л.

Я попелам стану
на ўскрайку крывых дарог
на душы — толькі дождж
кладзецца няўтульным сьвятлом
пыл адзіноты
з адцятага паветранага языка
сплывае чужая мова
мова мокрага ветру
аднекуль, з былога
насоўваецца туга
туга па агні

### ДЗЕНЬ

калі ранак, сядаючы сьнедаць,
сонца прамень паламае
пачынаецца звыклы тлум
у якім я шукаю
сваю калючую адзіноту
калі сонца нарэшце стане
цьвіком сталёвым
гэтага дня,
я, знайшоўшы сваю адзіноту,
хаваюся ў цень
чорнага футляра маёй душы
калі вечар даесьць гэтае сонца,
адрыгнуўшы прахладу
і ночы шчарнелай ікру,
тады я губляю
сваю калючую адзіноту,
каб заўтра, нараньні,
пачаць усё спачатку.

## Ю. ПАЦЮПА

### САМОТА

Я іду праз сусьветы самотнай хадой,
дзе па мне застаецца — самота, самота,
і паўсюль сустракаю самоту зь бядой,
і сьляды запякаюць чырвонай лістотай.

Спачывае душа на Хрыстовым крыжы,
што вузлом назаўсёды звязаўся з дарогай—
ці на дрэве зімой ліст апошні дрыжыць,
ці агонь над магілаю постацьцю дрогкай?

Надараецца хвіля — праз попел-туман
праступаюць спакойна то твары, то рэчы,
я бязь веры шапчу анікому: паглянь!—
Аніхто нематой адгукаецца вешчай.

А калі адхінаю сутоньне з вачэй—
паўстаюць, як сьцяна, лес і хмары, і хаты,
і бязь ліку, маленькія рэчы людзей,
і вялікі прасьцяг думкай Бога працяты.

І тады я кажу: розум мой не ўва мне,
аж датуль я жыву, пакуль маю самоту,
гэта толькі прагал, а за ім нечы сьнег,
аніякі, пусты, некрануты і цнотны.

Можа ён гэтак вабіць, вядзе праз гады,
як вандроўніка тога над морам пяяньне?
Гэта ссохлыя хвалі памерлай вады,
гэта ценяў травы безь вятроў калыханьне.

* * *

Толькі ўзыдзе сонца над лясамі,
каб ізноў сагрэць зямлю сырую—
у высокім каталіцкім Храме
я цябе навечна пацалую.

Будуць слухаць ледзяныя сьвечкі
месяцовае сьвятло аргана,
а малітва строгая асьвенціць
нашае языцкае каханьне.

І крыжы лязом кранацьме промень,
лыне дзень праз воскавыя сьцены,
крок прыпынім у яго палоне
мы, узрушана і багавейна.

Нам пакуль няведамы пакуты,
ашчаджаюць нас маўчаньнем лікі,
у цяжкое золата закуты,
у агнёх трывожлівых, шматлікіх.

Ды зямля сырая просіць плуга,
мовіць звон на бітву за Радзіму
Выпраўляцца ў дальнюю дарогу,
дзе загінуць і ня ўбачыць сына.

### СЬНЕГ

Было аднойчы, як заўсёды:
валіўся памяркоўны сьнег,
на ўсю бяду, на ўсе нягоды,
і дрэвы плавалі ў паўсьне.

Заўзята, манатонна, тонка,
як вогнішча наадварот,
сьнег, сьнег, абрынутая звонку
панлейкемія, антыкроў.

Пад чаравікамі, што вафлі
крышыўся, ледзьве шапацеў.
І толькі дрэвы адплывалі
у шчыльнай белай духаце.

Сьнег — проста бег на месцы
адгэтуль, вонкі, як далей,
прыпынены гадзіннік вечны,
спакойнай радасьці пасеў.

Сьнег, каб глядзець, але ня бачыць,
сьнег, каб падкрэсьліць краявід.
Ляндрынкаю, што ў срэбнай бляшцы,
магчыма сьнег пасаладзіць.

Магчыма зьбегчы ў лес і грэцца,
абняўшы тоўсты смольны сук.
Шлях у ва ўсе канцы, і першы—
куды ні ступіш — кожны крок.

Было расьсеяна, спакоем
здаваліся і тлум, і віск.
Я разумеў сьнег — гэта мова,
свабодны непісаны ліст.

І ні прытулку нават воку,
хіба за птушку зачапіць.
І зьнікнуць сэрцам так далёка,
так, быццам сэрца растапіць.

* * *

**Надзенем гумовыя боты, якія хрумсьцяць, як капуста,**
**І пойдзем туды, дзе з-пад хмары ляціць аж да вечара ліст,**
**туды, дзе ласі мухаморы ядуць, нібы тоўстыя лусты,**
**дзе пальцы выкручвае холад, дзе чэзнуць**
**травы касмылі.**

**Мы пойдзем далёка-далёка, у шчырую восень, у верты,**
**дзе ўсё з цэлафану й паветра, дзе яблыкі, быццам грахі.**
**Няма ані кроплі былога — аднога чырвонага ветру**
**дзявочыя стужкі на круглай, круглей за калена, зямлі.**

**Блакітнымі агуркамі і мёдам зялёным закусім**
**прастуду, прыйшоўшы дахаты, ля мокрага крыжа акна,**
**ля кіслага важкага хлеба, ў заседжанай мухамі кухне.**
**Як зімна на сьвеце і нудна! А дроваў— і тых ні ражна.**

**І людзі, як быццам знаёмцы, ці, можа быць, проста падобны,**
**«дзень добры», «бывайце», «заходзьце», ды толькі ніхто не зайдзе.**
**Штоноч асыпаюцца верты, заснуць не даюць кабыздохі,**
**ні млечнага шляху, ні ўздыху, а зоркі— глыбока ў вадзе.**

**Вары мне капусту і зельле, каб я на вандроўку ня ўспомніў,**
**каб век на цябе ўглядаўся, калені**
**дыханьнем каб грэў.**
**Якія прыемныя людзі! А псіны, сагрэтыя поўсьцю,**
**ня брэшуць, бо іх гэтай ноччу ні воўк, ні мароз не бярэ.**

## А. ДАБРАВОЛЬСКАЯ

* * *

Жанчыны празрыстымі пальцамі
кволыя ніці прадуць.
і за туманам зыбаецца,
што палатном яны ткуць.
Сьмерці пара завірушная
нас не дагоніць. Пяе
песьню сваю саматужная
прасьліца, нітку вядзе.
Цягнецца ад народзінаў,
рвецца — не ўваскрасіць.
З кола стагодьдзяў сыходзіць
роду ільняная ніць.

### ЛІХТАР

Ранкам
пагасьне ліхтар.
(Колер — ня мае значэньня.)
Ён — інструмент,
сьвятло —
яго прызначэньне.
Вецер
яму зайграе,
усход —
падпяе.
Прахожы —
прайдзе.

Нібы ліхтарні квет,
асыпаецца
яго сьлед.

* * *

Каштуючы сусьветнага яблыка,
з ´ядаеш кавалачак цьвердзі.
Сьвет вязьне ў зубох,
цьвердзь разбураецца
пад уздзеяньнем ферментаў
спазнаньня.
Семачкі, што выкідаеш —
суць зернейкі новага сьвету.

### АСАДКА

рэч
пераўтвараецца ў рэчыва
уцякае ў сцябло
абрываецца
выйсьцем
рассычана-я
ява
.. я...

### ПАЦЕРКІ

* * *

Гадзіньнік
разьбівае хвалю часу
на вясёлкавыя імгненьні

* * *

Восень
запаліла дрэвы
прад лікам Сонца

* * *

Дрэва-час абляцела
хвіліны гады
змятаюць у кучу
Вечнасьць

* * *

Жоўтаму верасу зь белымі вейкамі
абарвалі пялёсткі.
Сьнежань.

* * *

Дзякую вам
апошнім ламаным грошам —
вершам

* * *

Пачатак сезона:
сёньня
раскрываецца першы парасон

* * *

Э. Межалайціcу

Калі на адну далонь пакласьці неба,
а на другую — зямлю,
што пераважыць?

* * *

Птаха ў далонях трымаю.
Божа,
памілуй нас.

## І. СІДАРУК



### *ПАХОДНЯ*

*... І сьніцца сон: гарыць паходня*
*і праз туман вядзе народ.*
*Ужо каторы месяц, год*
*Мне сьніцца сон: гарыць паходня.*
*Чые там крыкі: «Быдла, зброд,*
*Зладзеі, п ´яніцы і зводні»?*
*Не, то не сон: гарыць пагодня*
*і праз туман вядзе Народ!*

### *ДАРОГА*

*У жылаватай руцэ старога —*
*далонька дзіцяці.*

* * *

*І нельга зразумець,*
*хто каму*
*павадыр.*
*Калі я стану*
*маленькім,*
*я буду марыць*
*аб цудах.*
*Толькі калі*
*я стану*
*маленькім?*

### *ЖАНЧЫНА*

*У хаце — новыя фіранкі.*
*Пралаза — прамень*
*сарамліва кранае*
*стужку*
*незагарэлай скуры...*

### *КАЛЕКТЫЎНАЕ*

*Я чытаю газэту.*
*Ты чытаеш газэту.*
*Ён чытае газэту.*
*Мы сядзім побач.*
*Мы ня ходзім у кааператыўныя*
*прыбіральні.*

---

В. ЧАРОПКА

# ПЕРАД МАІМІ ВАЧЫМА...

Велізарныя чорныя пацукі насцярожлівымі лупатымі вочкамі паглядаюць на мяне. Яны ведаюць, што Правадыр заявіў перад усімі: забойства пацука — гэта страшнае злачынства супраць чалавецтва, і таму зусім не палохаюцца мяне. Перашэптваюцца між сабою, шмыгаюць доўгімі насамі, паказваючы вострыя зубы, злавесна пасміхаюцца. Я бачу, як дрыжаць ад усмешак іх маленькія, як і ў Правадыра, вусікі. Нарэшце адзін падбягае да мяне і паспешліва кусае за нагу. Я трываю. Пацук нахабнічае — зноў мяркуе куснуць мяне. Але на гэты раз я нагой б ´ю яго па ненавіснай мызе. Чорнае тулава пацука пакацілася па каменнай падлозе, потым раз-другі ў прадсмяротных сутаргах здрыганулася і заціхла. І тут жа пацукі заскавыталі чалавечым голасам: «Гвалт! Гвалт! Забіў! Забіў!»,— і ўсёй гайнёю пабеглі да мяне. У вачох замільгала ад чорных спінаў і хвастоў. Я ўскочыў з падлогі. Убачыў, як нежывы пацук расплюшчыў адно вока і паглядзеў на мяне. Загнаны ў самы кут каморы, я адбіваўся ад пацукоў. Адзін за адным адляталі ад удараў чорныя звяркі. Мая віна перад чалавецтвам павялічвалася. Так і не адолеўшы мяне, пацукі акружылі кут і цярпліва сталі чакаць, калі я, знясілены сном, апушчуся на падлогу...

Мы любілі яго, мы верылі яму, мы ішлі за ім, мы ганарыліся ягоным сяброўствам. Ён нёс наш Сцяг. Варожыя кулі спявалі нам гімн мужнасці, і многія нашы сябры падалі з працятымі сэрцамі. Ніколі на ягоным твары мы не бачылі жаху. «Уперад, сябры мае, перамога будзе за намі»,— увесь час заклікаў ён. І мы ішлі за ім у бой, і мы перамагалі. Калі пілі горкае віно перамогі, ён плакаў ад шчасця. «Сябры мілыя, што б я без вас рабіў? Гэта вы падтрымлівалі мяне, і біццё вашых сэрцаў чуў я праз спеў варожых куль. Гэта вы здабылі перамогу». На радасцях мы цалаваліся і плакалі. Мы ўсе любілі яго. «Вядзі нас далей. З табою жадаем будаваць Дарогу Шчасця. Будзь нашым Правадыром»,— прасілі мы.

— Што вы? Хіба змагу! — аднекваўся ён.

— Зможаш. Хто іншы, калі не ты? — крычалі мы.

Так ён стаў Правадыром. Мы будавалі Дарогу, дзень і ноч, летам і ўзімку, мы не шкадавалі сябе. І ён працаваў з намі. Вечарам мы збіраліся ў ягоным цесным пакойчыку, згадвалі загінуўшых сяброў, спявалі песні сваёй маладосць, марылі аб будучыні. «Сябры, што б я без Вас рабіў? Вы мне і апора, і надзея»,— часта казаў ён. У гэтыя хвіліны ягоны шадравіты твар, адухоўлены любоўю да нас, быў як ніколі прыгожым і прывабным.

Мінула колькі гадоў. Будавалася яшчэ Дарога Шчасця, але Правадыр ужо не працаваў з намі з капачом і кайлом у руках, цяпер ён узяў у рукі пяро. Са свайго цеснага пакойчыка перабраўся ў шыкоўныя апартаменты палаца, які належаў некалі Дэспату. Замест простай вопраткі Правадыру пашылі маршальскі мундыр. І нас, сяброў сваіх, рэдка запрашаў да сябе. А калі мы і меліся пабачыць яго, ахова, што вартавала палац, адказвала: «Правадыр вельмі заняты. Ён просіць прабачэння. Як-небудзь іншым разам прыме вас». Але іншы раз так і не надыходзіў.

— Дый, што ты, сябра мой,— калі я нарэшце трапіў да Правадыра, шчыра прызнаўся ён,— пра які гонар ты кажаш? Я зусім не змяніўся,— па-сяброўску паляпаў мне па плячы.— Я такі як і раней. Не шкадую сябе, удзень і ўноч думаю, як лепей будаваць Дарогу Шчасця. Думаеш, гэта проста? Не, сябар, гэта не проста. А гэтыя апартаменты,— ён абвёў вакол рукой,— мундзір... Не бяры ў галаву. Гэта для велічнасці нашай мэты, каб паважалі нас.

— Але хіба нас не паважаюць за нашую працу?

— Ведама, паважаюць і захапляюцца, але для большага ўзвышэння нашага подзвігу патрэбны і гэтыя апартаменты, і гэты мундзір. Вось такая дыялектыка. Я цяпер шмат думаю пра яе. Ты лічыш, мне падабаецца тут. Ведаеш, як мне хочацца вырвацца адсюль да вас, але не магу. Ты не вер тым, хто выдумлівае, што я заганарыўся.

— А я і не веру,— адказваў я, наракаючы сабе за тое, што і сам думаў так — заганарыўся.

— Не вер. І не ссылаю я былых сяброў за тры моры. Хлусня. Я клапачуся аб іх здароўі. Яны ж лютаверы, гатовыя на ахвярнік будучага жыццё пакласці. Вось я і карыстаюся данай мне ўладай — шлю іх адпачываць у лепшыя лагеры адпачынку. Гэта мае ворагі распускаюць плёткі і намовы, ворагі,— голас у яго ўзмацніўся, загучалі сталёвыя ноткі,— не ўсіх мы перамаглі. Многія стаіліся і чакаюць зручнага моманту ўдарыць нам у спіну,— твар у яго пасуравеў, вочы насцярожліва прыжмурыліся, нібыта ў куту апартаментаў ён убачыў ворагаў, якія там схаваліся.

У гэты момант дзверы ў пакой шырока расчыніліся, і да нас убег ягоны сын.

— Тата! Та-тач-ка! — гучны дзіцячы голас парушыў нежывую цішыню палаца.— Глядзі, я птушачку злавіў,— паказаў ён крохкую сінічку.— Мы яе ў клетку пасадзім,— вочкі ў хлопчыка радасна блішчэлі.

Шчаслівая і лагодная ўсмешка на Правадыровых вуснах вярнула мне былога сябра. Цяпер я пазнаваў яго і ў гэтым шытым золатам маршальскім мундзіры. Разгладзіліся суровыя складкі на твары. Перада мною быў ўсё той жа сябар, што нёс перад намі Сцяг, будаваў з намі Дарогу, спяваў з намі песні. Правадыр падняўся з канапы, падышоў да сына.

— Сынок, дарагі, давай выпусцім сінічку. Для вольнага жыцця яна жыве.

Бацька і сын падышлі да расчыненага акна. Хлопчык разняў далонькі.

— Ляці, сінічка.

Калі я чытаў у кнігах выраз «твар свяціўся радасцю і шчасцем», то лічыў гэта прыдумкай пісьменнікаў. Але ўбачыўшы, колькі веры і дабра было ў хлопчыкавых вачах, як стоена чакаў, калі птушка выпархне з далоняў, як шчыра ўзрадаваўся, калі яна вылецела ў акно, падумаў: вось, што гэта такое — «твар свяціўся радасцю і шчасцем».

— Воля — галоўная каштоўнасць жыцця,— сказаў Правадыр і паклаў сваю руку на сынава плячо.

Воля... А я думаў у тое імгненне, што дабрата — галоўная каштоўнасць жыцця. Правадыр захаваў яе і ў гэтых апартаментах, а таму застаўся самім сабою, тым ранейшым, нашым сябрам якога мы любілі, якому верылі, якім ганарыліся.

У апошнія гады сталі хадзіць пагалоскі, што Правадыр захварэў. Казалі: ён баяўся сустракацца з людзьмі, страшыўся зірнуць праўдзе ў вочы, палохаўся паднятых у аднадушным вітанні яго асобы рук, уздрыгваў ад гучнага дзіцячага смеху. Усюды яму трызніліся ворагі. Ён перабраўся з палаца ў браніраваную вежу, але і там яму мроіліся жахі. Дактары толькі разводзілі рукамі. І тады з ´явіўся чалавек, які паабяцаў вылечыць Правадыра. Невысокага росту, у шэрых заношаных портках і ў пінжачку з латкамі на лакцях, ён нічым асаблівым не вылучаўся і нішто не казала пра ягоныя незвычайныя здольнасці. Хіба толькі пранізлівы, як дзіда, позірк лупатых вочак з-пад нізкага ілба.

Правадыр выклікаў яго да сябе. Я магу ўявіць, як прайшла іх сустрэча.

— Вы ўжо чулі аб маёй хваробе? — спытаўся Правадыр.

— Я магу вам дапамагчы,— ціхім даверлівым голасам адказаў чалавек.

— Чым? — каб прыхаваць хваляванне, Правадыр паспрабаваў раскурыць трубку, але запалка ў руцэ дрыжэла, і яе ніяк не ўдавалася запаліць.

— Я бачу душы людзей. Варта мне зірнуць на чалавека, і я ведаю, якая ў яго душа — светлая або чорная.

Правадыр, відаць, скурчыўся пад вострым позіркам чалавека, занерваваўся, падняўся з канапы і стаў праходжвацца па пакоі. У цішыні рыпелі ягоныя вайсковыя боты. Трубка ў руках так і не задымілася.

— Я вас слухаю.

— Я магу скласці спіс усіх светлых душаў, высвятліць усе шэрыя душы. Яшчэ са школы вы павінны памятаць, што калі пануюць шэрыя, да ўлады прыходзяць чорныя.

Гэты чалавек слушна паставіў дыягназ, ведаў, як лячыць хваробу, і збіраўся яе вылечыць. Ён не задаваў лішніх пытанняў. Правадыр прызначыўягоГалоўным Лекарам Дарогі.

Год Галоўны Лекар разам са сваімі памагатымі раз ´язджаў па Дарозе і складаў спісы светлых душ. Калі сустракаў чорныя — адразу запрашаў да сябе ў хеўру. Усё часцей і часцей у газетах з ´яўляліся звесткі аб эпідэміі невядомай хваробы, якая пагражала будаўнікам Дарогі.

Аднойчы Правадыр сабраў набліжаных да сябе людзей, у тым ліку і мяне. Пакуль чакалі прыёму, я ўбачыў сярод памагатых Голоўнага Лекара тых, хто некалі разам са мною крочыў пад сцягам Правадыра. Трымаліся яны асобна, непрыязна пагдядалі на нас, нібыта падазравалі нешта небяспечнае з нашага боку. Іх белыя, як бліскавічная маланка, халаты палохалі нас сваёй чысцінёю. Аднаго я пазнаў. Ён служыў пры Дэспаце пісарам і выдаваў ахове незадаволеных Дэспатам. Пасля таго як перамаглі мы, ён першы вітаў нас і выклікаўся складаць звесткі, як і хто працаваў на будаўніцтве Дарогі. Ён зрабіў выгляд, што не пазнаў мяне, я таксама.

Правадыр запрасіў нас да сябе. Шмат што мяне ўразіла ў ім. Пастарэлы маршчыністы твар, падазроны позірк паблеклых вачэй. Замест маршальскага мундзіра ён апрануў жалезны панцыр, на якім золатам блішчэла «Галоўны сярод ўсіх», «Герой з герояў», «Вялікі з найвялікшых», «Мудры з наймудрэйшых». Сам панцыр і надпісы на ім болей усяго здзівілі мяне. Навошта ўсё гэта Правадыру? Ён баіцца здрадніцкага кінжала? Але ўсе мы любім яго. Палохаецца, каб Галоўны Лекар не ўбачыў яго душы? Але ўсе мы ведалі: у Правадыра яна светлая, як нашая святая мэта. І адкуль раптам такая нясціпласць? Галоўны, герой, вялікі, наймудрэйшы? Пытанні заставаліся без адказу. Замест таго, каб запрасіць прысесці за стол, Правадыр выстраіў нас перад сабою. У пакой таропкаю хадою ўвайшоў Галоўны Лекар, апрануты у маршальскі мундзір. Ён уладарным голасам крыкнуў нам: «Зважай!». Але, відаць, мы выканалі загад не так, як яму заманулася, ці галовы неадначасова павярнулі, ці падбародкі не прыўзнялі высока, ці яшчэ што, але галоўны Лекар скрывіў твар і незадаволена прамовіў: «Адставіць».

— Што, сябры,— зняважліва вымавіў ён гэтае слова, нібы здзекваўся над намі, і мы прамаўчалі,— так і не навучыліся зважаць нашага горача любімага Правадыра? — Галоўны, заклаўшы рукі за спіну, праходжваўся ўздоўж шыхту, працінаючы кожнага сваім колкім позіркам.

— Перад вамі Герой з герояў, Вялікі з найвялікшых, Мудрэйшы з наймудрэйшых, а вы ніякай яму павагі. Вучыцеся ў Лекараў, як яны зважаюць нашага любага Правадыра, як аддана пазіраюць на яго, як цягнуцца падбародачкамі да яго — вось яна, шчырасць пачуцця, не вам прыклад.

А Правадыр убаку моўчкі хмурыў бровы і дыміў трубкаю, рабіў выгляд, што нічога не бачыць.

— Зважай! — рэзка ўсклікнуў Галоўны Лекар, і мы рэзка, прыўзняўшы падбародкі ўгору, павярнулі твары да Правадыра. У нашых вачах было столькі любові і адданасці, што Галоўны не стаў адмяняць свой загад.— Раўняйся на Правадыра! — што голасу гаўкнуў ён і, высока ўздымаючы ногі, парадным крокам падышоў да Правадыра:

— Дарагі наш Правадыр, Галоўны сярод галоўных, Герой з герояў, Вялікі з найвялікшых, Мудрэйшы з наймудрэйшых, народ чакае Вашага мудрага слова!

— Навошта, навошта гэткая ўрачыстасць? — Правадыр нахмурыў бровы. — Не трэба адрывацца ад народа, трэба быць з ім.

— Так, Правадыр, але гэта воля народа,— адказаў за ўсіх нас Галоўны Лекар.

— Ну, калі гэта воля народа,— Правадыр развёў рукамі.— Я падначальваюся народнай волі. Я хачу,— звярнуўся да нас Правадыр, а я адзначыў, што з яго вуснаў знікла слова «сябры»,— каб вы не здзіўляліся таму, што хутка будзе адбывацца ў хуткім часе. Так трэба. Вы ведаеце, што лютуе эпідэмія, як яе...

— Альба Рутэнія,— падказаў Галоўны.

— Вось-вось, яна нявечыць кволыя душы, адымае памкненні да будаўніцтва Дарогі Шчасця, а гэта на карысць нашым ворагам. Трэба правесці санітарную прафілактыку. Як думае Галоўны Лекар?

— Так, так, Правадыр, трэба неадкладная санітарная прафілактыка.

У гэты момант адчыніліся дзверы і ў пакой убег хлопчык. Вялікія залатыя літары, выбітыя на панцыры, што замураваў дзіцячае тулава ў жалеза, абвяшчалі — «Сын Правадыра». Убачыўшы нас, хлопчык спужана залыпаў вачыма з доўгімі веямі. Ён рос цяпер без сяброў, быў пазбаўлены шумлівых дзіцячых гульняў, не ведаў шчырай радасці і смеху, не купаўся летам у рэчцы, не збіраў у лесе грыбы, не катаўся зімою на санках, не пускаў караблікі па вясковых раўчуках... Я здагадаўся, што хлопчык марыць скінуць панцыр, які адбіраў у яго апошнюю магчымасць свабодна рухацца.

— Чаго табе? — незадаволена і сурова спытаўся Правадыр у сына. Але хлопчык не адказаў яму. Ён палахліва пазіраў на бацьку і нясмела адступаў да дзвярэй. І я тады звярнуўся да Правадыра:

— Правадыр, я думаю, лепш зняць з хлопчыка панцыр.

— Я сам ведаю, што мне рабіць,— рэзка адказаў Правадыр.

Галоўны Лекар занепакоена зірнуў на мяне, і ў ягоных вачох я прачытаў прысуд.

... Пацукі чакаюць, калі я засну. А я калі і хацеў бы заснуць, дык не змог бы. Перад маімі вачыма стаіць хлопчык. Ён умольна паглядае на мяне. Але чым я магу дапамагчы?

1987 г.

